№ 221 (1285)
Аўторак, 27 лістапада 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 120 руб.,
у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

# Народная Воля

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі невялікі снег, на дарогах галалёдзіца. Вецер слабы. Тэмпература паветра ў Віцебску — 0...-2, Мінску, Гродне, Магілёве — каля нуля, у Брэсце, Гомелі — 0...+2.

У наступныя двое сутак — кароткачасовы снег, на дарогах галалёдзіца. Вецер усходні, 4—9 м/с. Тэмпература паветра ўначы — -3...-8; удзень — 0...-5.



**ЛІСТ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА**

# Мы — з Вамі!

Мае дарагія сябры!
Прыхільнікі свабоднага слова!

Шмат вады сплыло з таго дня, калі я звяртаўся да Вас у апошні раз. Сённяшняя нагода — асаблівая: ідзе падпіска на першую палову 2002 года. І, вядома ж, хочацца, каб вынікі яе былі станоўчыя. Пры гэтым, паверце, трывожыць не столькі заўтрашні дзень "Народнай волі", колькі лёс шматпакутнай Беларусі. Не можа быць у нашай Радзімы шчаслівай будучыні без дэмакратыі. А дэмакратыя не існуе без вольнай, адкрытай незалежнай прэсы.

Многія з Вас, мабыць, звярнулі ўвагу на кошт газет. Сапраўды, дзяржаўныя выданні таннейшыя за недзяржаўныя. А што, даражэнькія, зробіш, калі ў нас верх пакуль бярэ ганебная палітыка — нястрымнае імкненне ўлад усімі сродкамі задушыць свабоднае слова, паставіць шлагбаум на шляху праўды. Яшчэ некалькі гадоў таму мы, галоўныя рэдактары незалежных выданняў, Беларуская асацыяцыя журналістаў, паставілі рубам пытанне: чаму для недзяржаўных газет тарыфы "Белпошты" на паслугі, звязаныя з экспедзіраваннем, транспарціроўкай і дастаўкай тыражоў, значна вышэйшыя, чым для дзяржаўных выданняў? Нават сляпому было бачна: "Белпошта" злоўжывае манапольным правам. І на адзін з нашых зваротаў тагачаснае Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый зрабіла катэгарычную заяву: *"Спыніць незаконную дзейнасць у адносінах да рэдакцый перыядычных выданняў, якія не датуюцца з рэспубліканскага бюджэту"*. Думаеце дыскрымінацыі быў пастаўлены заслон? Ніхто і пальцам не паварушыў. Адзінае, чаго ўдалося дабіцца за шэраг гадоў, — звузілася "разбежка" ў тарыфах. Але ж розніца па-ранейшаму існуе, што ставіць дзяржаўную і недзяржаўную прэсу ў няроўныя ўмовы.

Скажу шчыра: мурашкі бягуць па целе, калі я ўглядваюся ў лічбы — 3000 і 2200. Першая — кошт у рублях месячнай падпіскі на "Народную волю", другая — месячны кошт падпіскі на "Советскую Белоруссию", "Рэспубліку", "Народную газету", "Белорусскую ниву". Крый Божа, не падумайце, што прымаючы канчатковае рашэнне я дбаў толькі пра свае меркантыльныя інтарэсы, інтарэсы ўладальніка газеты. У першую чаргу я думаў пра тое, каб газета выжыла, змагла даходзіць да Вас, мае любыя сябры, і праз месяц, і праз два, і праз год... Глядзіце, у адпаведнасці з тарыфамі той жа "Белпошты" дзяржаўным газетам будуць пералічаны па выніках падпіскі 53 працэнты сродкаў, а "Народнай волі" — толькі 37 працэнтаў. Словам, нягледзячы на больш высокі кошт падпіскі мы атрымаем ад кожнага з Вас, шаноўныя чытачы, значна менш грошай, чым лукашэнкаўскія газеты ад сваіх падпісчыкаў.

Я ўжо не раз падкрэсліваў: бессаромная цынічнасць беларускіх улад мае такую вытанчанасць, што ёй маглі б пазайздросціць інквізітары сярэднявечча. Сем год існуе "Народная воля", і сем год яна выдаецца ў страшэнна невыносных умовах. Як кажуць, і памерці не даюць, і дыхаць немагчыма. Дыскрымінацыя на сёння — гэта не толькі непад'ёмныя тарыфы, гэта і забарона на тыражаванне ў спецыялізаванай друкарні, якая знаходзіцца ў падначаленні Кіраўніцтва справамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Дзесятак зваротаў — і безвынікова. А на дабітым станку ПП "Мэджык" — не разгонішся. З-за гэтага мы шмат губляем у аператыўнасці, якасці друку і многім іншым. А ці ж не дзікунства, што вось ужо каторы год выдавецтва "Беларускі Дом друку", на тэрыторыі якога знаходзіцца экспедыцыйны ўчастак "Белпошты", дзярэ з "Народнай волі" вялікія грошы за ўезд у двор для перагрузкі штодзённых тыражоў. Вяроўка на шыі — пастаянныя штрафы, іншыя гібельныя санкцыі. Толькі ў гэтым годзе газету абабралі ў пераводзе на "зялёныя" амаль на дзесяць тысяч долараў. Сякера ката вісіць над галавой літаральна круглыя суткі.

Але ж як бы цяжка ні было, "Народная воля" павінна выходзіць, радаваць сваіх чытачоў аб'ектыўным, праўдзівым словам. Калі вяртацца да кошту падпіскі на першую палову 2002 года, то пры яго вызначэнні мы зыходзілі таксама з таго, які ён у іншых незалежных выданнях. Напрыклад, месячная падпіска газеты "Рабочы" — 1054 рублі, але ж яе перыядычнасць — адзін раз у тыдзень. А "Народную волю" вы атрымліваеце, не ўлічваючы нядзелі і панядзелка, кожны дзень альбо пяць разоў у тыдзень. Такія ж паралелі можна правесці і ў адносінах да іншых недзяржаўных выданняў. Гэта нас крыху супакойвае, дае шанцы спадзявацца на далейшае сяброўства з вялікай аўдыторыяй чытачоў.

У апошнія дні рэдакцыйныя тэлефоны не сціхаюць ад аднаго пытання: што за крымінальная справа ўзбуджана па публікацыях у верасні на старонках "Народнай волі"? Справа пракурораў узбуджаць справы, але што датычыцца "Народнай волі", то мы, журналісты, успрымаем усё спакойна. Таму, што дзейнічаем у адпаведнасці з законамі. А калі нават і памыляемся (хто ад гэтага застрахаваны?), то выпраўляем свае хібы зноў жа ў межах законаў. Калі мець на ўвазе публікацыю "Заявы лідэраў палітычных партый і грамадскіх рухаў шырокай грамадзянскай кааліцыі". (14.09.2001 г.), то пад дакументам — подпісы самых знакамітых людзей Беларусі, у тым ліку і экс-кандыдата ў прэзідэнты краіны. З'яўленне "Заявы..." на старонках газеты — гэта інфармаванне чытачоў, што такая заява падпісана і прынята вядомымі палітыкамі і грамадскімі дзеячамі. "Народная воля" бездакорна выканала сваю галоўную ролю — данесла інфармацыю да чытачоў. Калі ў публікацыі ўтрымліваюцца звесткі, не адпавядаючыя рэчаіснасці, газета гатова ў любы час прадаставіць свае старонкі апанентам аўтараў заявы.

Карацей, "Народную волю" хвалююць не закулісныя палітычныя гульні, а яе рэальны ўдзел у living рознабокавым жыцці Беларусі, яе нацыянальным адраджэнні, дэмакратызацыі, пераходу да рыначнай эканомікі. І ў гэтым плане газета не мяняе сваіх пазіцый. Не трэба крыўдаваць на "Народную волю" тым, хто ўжо каторы год трымае ў руках уладу, але вынікі кіравання плачэўныя. Палепшыцца заўтра жыццё пенсіянераў, студэнтаў, калгаснікаў, рабочых, інтэлігенцыі — "Народная воля" будзе станоўча гэта адзначаць у сваіх матэрыялах. А пакуль...

Не трэба крыўдаваць на "Народную волю" і тым, хто называе сябе апазіцыяй, але сваёй імпатэнтнасцю, сваёй балбатнёй толькі адтэрміноўвае перамогу дэмакратыі над аўтакратыяй, знішчае спадзяванні мільёнаў людзей на рэальныя грамадска-палітычныя пераўтварэнні ў краіне. Мы будзем усё рабіць для таго, каб як мага хутчэй на палітычнай арэне Беларусі з'явіўся сапраўдны лідэр апазіцыі, дзейсны выратавальнік нацыі. У той жа час "Народная воля" не пойдзе па шляху ачарнення, аплёўвання ўсяго таго лепшага, што з'явілася ў дэмакратычных плынях за апошні час. Нават самыя кволыя парасткі дэмакратычнага жыцця мы будзем падтрымліваць, развіваць, пускаць на шырокі прастор.

Тым, хто за Бацькаўшчыну, за Беларусь, мы кажам:

**Вы — з намі,**
**Мы — з Вамі!**

Вядома ж, ёсць сем'і, і нямала такіх, для якіх знайсці грошы на падпіску зусім не лёгка. Таму рэдакцыя, як і раней, захоўвае льготны індэкс — для тых, хто не ўпершыню падпісваецца на "Народную волю". Хоць невялічкая, але ўсё ж эканомія! Не маеце магчымасці падпісацца адразу на шэсць месяцаў, падпішыцеся на тры, два, адзін месяц. Галоўнае — не парываць сувязей з любімай газетай. Дарэчы, ёсць і іншыя парады нашым паважаным падпісчыкам. "Народную волю" можна мець "у складчыну" — аформіць адну падпіску на некалькі кватэр, на некалькі супрацоўнікаў, на аддзел, участак... Прачытаў адзін, перадаў другому, трэцяму...

Я звяртаюся да вас, багатыя людзі! Вам пашанцавала стаць на ногі, пазбегнуць гаротнай долі беднякоў — дапамажыце тым са сваіх блізкіх, знаёмых, суседзяў, хто сапраўды не мае магчымасці падпісацца на "Народную волю". Паўгадавая, квартальная і нават месячная падпіска на такую газету, як наша — лепшы падарунак чалавеку. Зрабіце гэта, калі ласка, і Вы станеце яшчэ больш багатымі, у першую чаргу — духоўна!

Падпісная кампанія — экзамен не толькі для рэдакцыйнага калектыву, гэта сур'ёзны экзамен і для тых, хто называе сябе лідэрам партыі (вядома ж, з дэмакратычнай праграмай), лідэрам таго ці іншага грамадскага руху. Падтрымаць незалежную прэсу — значыць, дайсці да народа, мець прамое ўздзеянне на яго свядомасць, на працэсы грамадска-палітычнага жыцця краіны.

...Успомніў адну размову з экс-кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Леанідам Георгіевічам Сініцыным. Ён расказаў такі эпізод. У першыя дні прыходу да ўлады А.Лукашэнка склікаў сваё бліжэйшае атачэнне і сказаў прыкладна так: "Падчас выбарчай кампаніі я гаварыў пра свабоду сродкаў масавай інфармацыі. Забудзьце пра гэта. Мы будзем пры ўладзе датуль, пакуль будзем трымаць у руках газеты, радыё, тэлебачанне...".

Вось ужо восьмы год А.Лукашэнка і яго атачэнне трымаюць пад абцасам БТ, радыё, дзесяткі і нават сотні дзяржаўных газет.

"Народная воля" — вольная газета. І як хочацца, каб беларускаму народу таксама жылося вольна і свабодна. Менавіта гэтаму і надалей будзе спрыяць "Народная воля", якая дойдзе, абавязкова дойдзе да кожнай хаты, кожнай кватэры, кожнай сям'і.

**Вы — з намі,**
**Мы — з Вамі!**

Шчасця Вам, мае мілыя, добрыя суайчыннікі!

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**заснавальнік і галоўны рэдактар газеты "Народная воля".**

## АБСЕ зноў вывучае сітуацыю ў краіне

З наведвання пасяджэння Кансультатыўнага савета апазіцыйных палітычных партый 25 лістапада пачаўся візіт у Беларусь дэлегацыі спецыяльнай рабочай групы па Беларусі Парламенцкай асамблеі АБСЕ. У яе склад увайшлі новы старшыня групы Ута Цапф (Германія) і член групы Урбан Алін са Швецыі.

Паводле слоў Уты Цапф, мэта візіту заключаецца ў вывучэнні цяперашняй сітуацыі ў Беларусі. "Нам давядзецца даць ацэнку становішчу ў краіне праз два з паловай месяца пасля прэзідэнцкіх выбараў", — адзначыла кіраўнік групы. Яна таксама нагадала, што ў лютым 2002 года пройдзе пасяджэнне Пастаяннага камітэта Парламенцкай асамблеі АБСЕ. Менавіта гэты камітэт шмат у чым вызначае статус той ці іншай дэлегацыі ў Парламенцкай асамблеі АБСЕ.

Нагадаем, што на сённяшні дзень у адносінах да парламента Беларусі тут пануе канцэпцыя пустога крэсла — паўнамоцтвы Вярхоўнага Савета 13-га склікання, на думку Пастаяннага камітэта, ужо закончыліся, а Палата прадстаўнікоў 2-га склікання не была абрана дэмакратычным шляхам.

Ута Цапф таксама паведаміла, што "цяперашняя паездка — гэта толькі першы раунд перад лютаўскім пасяджэннем".

**Уладзімір ГЛОД.**

## Станіслаў Шушкевіч захаваў пасаду

### Адбыўся чарговы з'езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады

З'езд прыняў пастановы па пытаннях кансалідацыі дэмакратычных сіл Беларусі, адобрыў работу Выканкама ЦР БСДГ па ўзаемадзеянні з дэмакратычнымі партыямі і структурамі Беларусі, пацвердзіў членства БСДГ у Каардынацыйнай Радзе Дэмакратычных Сіл і ў Кансультатыўным Савеце апазіцыйных партый, абавязаў свае цэнтральныя органы ва ўсіх захадах па кансалідацыі непахісна прытрымлівацца абавязкова спалучэння прынцыпаў: Беларусь — незалежная дзяржава; Беларусь — прававая дзяржава; Беларусь — дэмакратычная дзяржава.

Цэнтральнай Радзе і Выканкаму прапанавана прадоўжыць работу па аб'яднанні сацыял-дэмакратычных сіл, кіруючыся праграмнымі мэтамі БСДГ, а філіям і суполкам — праявіць ініцыятыву па ўстанаўленні кантактаў і пашырэнні супрацоўніцтва з сацыял-дэмакратычнымі структурамі іншых арганізацый.

У Пастанове аб палітычным становішчы ў Рэспубліцы Беларусь падкрэсліваецца, што кампетэнтнейшыя незалежныя міжнародныя інстытуты, у тым ліку і Камісія па правах чалавека ААН, прызналі беларускае заканадаўства антыдэмакратычным, якое пярэчыць прынцыпам пабудовы дэмакратычнай дзяржавы (дакумент ААН E/CN, 4/2001/65/Add.1. 8 February 2001), і што ў гэтых умовах важнейшай для БСДГ застаецца барацьба за ўсталяванне ў Беларусі дэмакратычнага заканадаўства.

Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада падтрымлівае чатыры абавязковыя ўмовы нармалізацыі палітычнага становішча ў Беларусі, сфармуляваныя беларускай апазіцыяй і падтрыманыя міжнародным супольніцтвам, у тым ліку ПА АБСЕ (1999), Стамбульскім самітам (1999) і Парламенцкай "Тройкай" (2000).

З'езд абраў кіруючыя органы Грамады: старшынёй ЦР — Станіслава Шушкевіча, намеснікамі — Анатоля Астапенку, Валерыя Арцішэўскага, Міхаіла Булавацкага.

## МАЗ купил? Езжай в Европу...

Не от злого умысла, а исходя из давних представлений об экономических проблемах Беларуси наш корреспондент в США Леонид Аноп, уже три года работающий в Лос-Анджелесе, несправедливо упрекнул столичных автомобилестроителей в неконкурентоспособности выпускаемых предприятием МАЗов. "Их не пускают сегодня в Европу из-за несоответствия экологическим, техническим и прочим требованиям", — такое мнение содержалось в его статье "Московское время" ("Народная воля" от 21 ноября).

На самом деле не все так уж и плохо. Минские автомобили охотно закупают перевозчики многих зарубежных стран. Таких, как Китай, Ирак, Иран, Россия, государства Прибалтики... МАЗы постоянно можно видеть на трассах Польши, Германии, Бельгии, Франции.

Только за десять месяцев этого года предприятие произвело 850 машин самых разных модификаций, которые полностью соответствуют требованиям стандартов "Евро-2". Токсичные выбросы в атмосферу и шум не превышают европейские нормы.

Понятно, машины, которые используются где-нибудь на лесоразработках, в горной промышленности, могут быть и классом пониже. Но это вовсе не противоречит экономическим законам и здравому смыслу. Хотя, не исключено, вскоре ни одна машина, не соответствующая требованиям евростандартов, не сможет появиться на дорогах нашей страны и ближайших соседей. На МАЗе это знают и действуют соответственно.

**Соб.инф.**

## Каб жыла Бацькаўшчына...

### Зварот да беларускага народа ў Дзень Герояў, 27-га лістапада 2001 года

Дарагія суродзічы!

Святкуючы ўгодкі слаўнага Слуцкага Збройнага Чыну, Беларусы ўва ўсім свеце аддаюць гонар Случчакам, якія "пайшлі паміраць", каб жыла Бацькаўшчына".

Было іх толькі каля дзесяці тысяч, мелі толькі дзве тысячы вінтовак і дзесяць кулямётаў. Аднак, тры тыдні пасля пачатку баявых дзеянняў, бальшавікі былі змушаныя ўзмацняць сваё войска азіяцкімі аддзеламі, каб іх перамагчы.

Ёсць у нас героі і сёння. І ёсць іх шмат. У гэты Дзень Герояў, аднак, хацела б аддаць гонар моладзі, якая змагаецца ў Курапатах, каб не дазволіць пакрыць асфальтам косці ахвяраў сталінізму. Іх збіваюць, іх арыштоўваюць, іх штрафуюць, а яны — на варце! Бароняць Бацькаўшчыну і яе адвечныя вартасці. Яе славу. Яе годнасць. Яе незалежнасць.

Гэтыя дзяўчаты і хлопцы — нашыя сённяшнія Случчакі — паказваюць волю нашага маладога пакалення захаваць гістарычную памяць беларускага народа і даказаць свету, што Беларусь жыве!

Звяртаюся сёння да ўсіх тых, хто яшчэ іх не падтрымаў. У Курапатах мусілі б вартаваць магілы ахвяраў чужацкага тэрору не дзесяткі ці сотні герояў, а ўвесь беларускі народ! Не дазвольце спраўдзіцца стэрэатыпам пра нашую пасіўнасць і абыякавасць да ўсяго беларускага! Яшчэ час выратаваць гонар нашага народа. Ідзіце тысячамі ў Курапаты! Пакажыце свету Вашу салідарнасць! Пакажыце, што беларускі народ — вольны, мужны, годны — сапраўды існуе і што ён заслугоўвае на павагу міжнароднай супольнасці.

Жыве Беларусь!

**Івонка СУРВІЛЛА,**
**старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.**
**Атава, Канада, лістапад 2001 г.**

## ЗША плануюць кантактаваць з АБСЕ і сваімі еўрапейскімі саюзнікамі дзеля таго, каб выпрацаваць агульную палітыку ва ўзаемаадносінах з беларускімі ўладамі

Пра гэта, выступаючы ў Мінску на міжнароднай канферэнцыі "Беларусь пасля выбараў: неабходнасць перамен", заявіў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол ЗША ў Беларусі Майкл Козак.

Ён нагадаў, што Злучаныя Штаты падзяляюць вывады, зробленыя місіяй Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека АБСЕ па абмежаваным назіранні за выбарамі. ЗША прытрымліваюцца вывадаў місіі аб тым, што, па-першае, выбары не адпавядалі дэмакратычным стандартам; па-другое, энергічная грамадзянская супольнасць у Беларусі ўзнікла, нягледзячы на супрацьдзеянне ўладаў, і павінна быць падтрымана; па-трэцяе, ізаляцыя Беларусі была б не ў інтарэсах беларускага народа.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

**ЗАКУЛИСЬЕ**

## Будут новые уголовные дела?

### Вполне возможно, что в ближайшее время появится новое уголовное дело. На сей раз спрашивать по закону будут с бывшего главврача так называемой лечкомиссии — Евгения Киселя

В субботнем номере мы рассказали об организационных изменениях в Республиканской больнице Управления делами президента, так называемой лечкомиссии, куда создавать "школу современной медицины" направлена личный доктор Лукашенко — Ирина Абельская.

Пока непонятно, что ждет в будущем бывшего главного врача правительственной больницы Евгения Киселя: казнят или помилуют?

Как известно, Лукашенко, посещая на прошлой неделе эту элитную больницу, обмолвился, что лечкомиссию проверяет Госконтроль и он, мол, очень боится, "чтобы там не было какого-нибудь криминала". Рассказывают, что Лукашенко, выступая перед коллективом больницы, ткнул пальцем в Евгения Киселя и сказал: "Верни 50 тысяч долларов".

Сейчас бывшие подчиненные Киселя гадают, как тот будет выкручиваться из этой ситуации. Если найдет требуемую сумму — то возникнет вопрос, откуда у белорусского медика, официальной зарплаты которого хватает только на хлеб с маслом, такие деньги? Если нет, значит, попадет под уголовную статью за нерациональное использование государственных денег.

Поговаривают, что в бытность Киселя главным врачом лечкомиссии действительно имела место история с 50-ю тысячами долларов. Якобы такая сумма денег была перечислена некой фирме под закупку медицинского оборудования. Но, как иногда случается в нашей стране, фирмы вдруг не стало и вместе с ней канули в лету и деньги. Но тогда почему-то никакого громкого расследования никто не проводил. В срочном порядке из государственных закромов была выделена новая сумма денег, и через некоторое время в лечкомиссии появилось медицинское оборудование...

Где сейчас находится Кисель — неизвестно. Телефон в его новом рабочем кабинете молчит с того самого дня, как Лукашенко посетил лечкомиссию. Может, ищет 50 тысяч долларов? А может, у Евгения Михайловича уже нет нового рабочего кабинета?..

Наверное, все хорошо помнят, что ожидало тех, кого Лукашенко якобы между прочим уличал в воровстве. Стоило только Александру Григорьевичу вслух произнести фамилию или кивнуть в сторону того или иного чиновника, как тут же появлялись новые уголовные дела. Что такое "тюремные университеты", знают бывший премьер-министр Михаил Чигирь, депутат Верховного Совета 13-го созыва Андрей Климов, бывший министр сельского хозяйства Василий Леонов, дважды Герой Соцтруда Василий Старовойтов, директор Жлобинского металлургического завода Юрий Феоктистов. И этот список можно продолжить...

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

**БОМОНД**

## Как Станислав Князев народ покорил

### В Минске проходит VIII Международный кинофестиваль стран СНГ и Балтии "Лістапад-2001"

На официальных церемониях многие скучают. Стандартные торжественные тексты, постные физиономии чиновников, сухие приветствия и поздравления. С этой точки зрения открытие кинофестиваля "Лістапад-2001", которое состоялось в минувшие выходные во Дворце Республики, было слегка нестандартным.

Фестиваль вели **Алена Спиридович** и **Егор Хрусталев**. Последний не мог просклонять слово "бюллетень" и вообще часто запинался.

Несмотря на то, что Александра Лукашенко регулярно персонально приглашают на "Лістапад", он всякий раз вместо себя присылает какого-нибудь чиновника. В этот раз на "Лістапад" был делегирован первый заместитель главы Администрации президента **Станислав Князев**. Станислав Никифорович в элегантном костюме бодро поднялся на сцену. Красиво улыбнулся, поздоровался и начал читать текст приветствия А.Лукашенко.

На лукашенковский официоз зрители реагировали слабо, даже не хлопали. А вот от "левитановских" интонаций оратора Князева хохотали до слез. Так тексты Александра Григорьевича еще никто не читал...

Приз за духовное возрождение, сохранение и развитие традиций в киноискусстве вручили народному артисту **Георгию Жженову.** Как сказал сам артист, для него это была полная неожиданность: "Если бы знал, оделся бы не так буднично".

Президенту "Лістапада" **Ростиславу Янковскому** Международная академия театров присвоила звание академика. Следует заметить, что в этой академии всего два академика. И оба наши. Первой ученое звание получила Стефания Станюта.

Председатель Минского горисполкома **Михаил Павлов** на прошлом "Лістападзе" признался, что в кино не был уже двадцать лет. Теперь всем известно, что раз в год Павлова точно можно встретить в кинотеатре.

Актриса Государственного молодежного театра Беларуси **Алена Внукова** выглядела очаровательно. В одном из своих интервью Алена сказала, что по внешнему виду женщины всегда можно определить, счастлива ли она в любви. По виду Внуковой однозначно можно сказать, что у нее с личной жизнью все в порядке.

Режиссер **Валерий Тодоровский** спал во время официальной церемонии.

Актер **Сергей Шакуров** продемонстрировал свою отличную физическую форму — несмотря на солидный возраст, Сергей Леонидович на сцене изобразил отличное сальто.

Режиссер **Михаил Пташук**, которого вначале забыли пригласить на сцену, пребывал в хорошем расположении духа и постоянно говорил, что Беларусь — самая лучшая страна в мире.

Любимец женщин актер **Ивар Калныньш** спел шикарный блюз на "бис!".

Министр культуры Беларуси **Леонид Гуляко** говорил на белорусском языке. Честь и хвала!

В речи Леонида Павловича было два основных момента. Во-первых, кинофестиваль "Лістапад", по его мнению, отражает *"...адносіны прэзідэнта да мастацтва"*. А во-вторых, мы не смогли бы организовать такой фестиваль, пригласить таких гостей, *"калі б у дзяржавы былі другія адносіны да культуры"*. Вряд ли министр культуры не знает, как бедствуют отдельные знаменитые и титулованные артисты. Как некоторые из них вынуждены приторговывать на рынках. Вряд ли г-н Гуляко не знает, какие гонорары платят за выступление под фонограмму российским "звездам" на том же "Славянском базаре" и какие — белорусским. Это — показатель отношения государства к культуре. И этим вряд ли стоит гордиться.

**Марина КОКТЫШ.**

**На снимке:** *Станислав Князев.* **Фото IREX/ProMedia.**

## Внимание: конкурс!

### Подписался на "Народную волю" — выиграй еще телевизор или холодильник

Давно мы не проводили конкурс среди подписчиков "Народной воли". Нынче, несмотря на сложную финансовую ситуацию, редакция все же решила вернуться к этой игре.

Среди призов, которые получат победители конкурса — телевизоры, радиоприемники, холодильники, велосипеды, предметы бытового назначения, спортивный инвентарь, литература и т.д. Итоги розыгрыша будут подведены в канун Нового года с участием читателей газеты. Для участия в конкурсе Вам следует направить в редакцию копию оформленного и оплаченного подписного бланка на первую половину 2002 года с пометкой "Конкурс". Подписка должна быть оформлена не менее чем на два месяца.

Удачи, друзья!

**Редакция газеты "Народная воля".**

РЭГІЁН

## Падлеткавы суіцыд

У сябе дома, у звычайнай двухпакаёвай кватэры, што месціцца ў звычайным гарадскім мікрараёне Крычава, павесіўся 13-гадовы хлапчук. Гэта небывалае для правінцыйнага гарадка здарэнне літаральна шакіравала мясцовую грамадскасць. Вось ужо некалькі дзён успаміны пра яго бударажаць розумы гараджан і выклікаюць мірыяды плётак і домыслаў.

Што паслужыла сапраўднай прычынай, па якой вучань 7-га класа сярэдняй школы №3 Аляксей Г. скончыў сваё жыццё самагубствам, пакуль невядома. Аднак, па словах аднакласнікаў Алёшы, ён быў абвінавачаны ў крадзяжы аўдыё-(відэа?) касет адной са школьных настаўніц, якая абяцала прыдаць справе галоснасць і прыцягнуць да яе міліцыю. У падаўленым стане духу ён накіраваўся дамоў. З тае пары жывым яго ніхто ўжо не бачыў. Паводле іншай версіі, падлетак меў пэўны канфлікт з бацькам.

На ўсе ўзніклыя пытанні, думаецца, дасць адказ следства, якое пачалося неўзабаве пасля самагубства.

## Дабрачыннасць з'елі пацукі

Адрасныя пасылкі, якія былі накіраваны ў Крычаўскі раён з Нямеччыны ў якасці гуманітарнай дапамогі, былі значна пашкоджаны не толькі сырасцю і цвіллю, як гэта звычайна бывае, але і пацукамі. Прычына ў недапушчальна вялікім тэрміне мытных мерапрыемстваў, што здзяйсняліся ў дачыненні да груза.

Пра гэта паведамілі некалькі беларускіх атрымальнікаў дапамогі пасля знаходжання ў сваіх пасылках звычайнага пацучага кала.

Груз з Нямеччыны прыйшоў у горад яшчэ ў сярэдзіне кастрычніка і з тае пары быў змешчаны на склад Крычаўскага гаргандлю, дзе і праляжаў больш за месяц. Менавіта падчас такога "растамажвання" змест адраснай дапамогі быў дэтальна вывучаны навакольнымі грызунамі ўсіх разнавіднасцяў.

## Бязбожнікі

Супрацоўнікі Крычаўскага РАУС затрымалі злачынцаў, якія 9 лістапада абрабавалі праваслаўную Пакроўскую царкву. Гэта быў ужо не першы крадзёж з культавай установы, што размешчана ў прамысловым раёне горада.

На гэты раз да злачынства спрычыніўся нехта Васіль Хруцкі, былы царкоўны званар, і ягоны нідзе не працуючы сябар. Скрадзенае начынне, а гэта ў асноўным бронзавыя і медныя прадметы культу, бязбожнікі планавалі прадаць як звычайны лом каляровых металаў.

## Гарэлка не актуальна?

Чэрыкаў не адносіцца да катэгорыі гарадоў, вядомых як цэнтры айчыннай наркаманіі. Гэта не Светлагорск, не Жлобін і нават не Мазыр. Аднак апошнім часам, нягледзячы на параўнальную нязначнасць колькасці гараджан (прыкладна 7 тысяч) і на невялікія даходы мясцовага насельніцтва, Чэрыкаў імкліва пачаў заваёўваць нядобрую славу вышэйзгаданых месцаў.

Калі яшчэ ў 1995 годзе тут не было ніводнага афіцыйна прызнанага спажыўца "белай смерці", то зараз такіх хоць адбаўляй. Ужо зарэгістраваны не адзінкавыя выпадкі смерці ад перадазіроўкі наркотыкаў, ужо ў горадзе вядомы прытоны для наркаманаў, ужо актыўна гандлююць не толькі макавай саломкай, але і больш сур'ёзнымі рэчывамі. З мэтай атрымання заветнай "дозы" жанчыны гандлююць сваім целам...

І вось зусім нядаўна за ўзброены грабёж быў арыштаваны мясцовы жыхар, які меў дачыненне да спажывання наркотыкаў. Рабаўнік зрабіў напад на прадаўшчыцу хлебнага магазіна, якую жорстка збіў (зараз жанчына знаходзіцца ў рэанімацыі) з мэтай адабраць выручаныя за паўдня грошы.

## Бум беспрацоўя

На працягу 2001 года колькасць афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных у Клімавіцкім раёне вырасла больш чым на 166%. Пра гэта паведаміў дырэктар раённага цэнтра занятасці (РЦЗ) В.Штылеў.

Так, калі на пачатку бягучага года на Клімаўшчыне беспрацоўнымі лічыліся 351 чалавек, то зараз ужо 868 мясцовых жыхароў стаяць на ўліку ў РЦЗ. Значная частка з клімаўцаў, якія не могуць знайсці працу, — выпускнікі гарадскіх школ. Ды і ўвогуле, з усёй колькасці беспрацоўных больш за палову — гэта маладыя людзі да 29 гадоў.

**Андрэй КУЗЬМІН, кіраўнік інфармацыйнай службы "Кантакт-цэнтр". г.Крычаў.**

ТРАГЕДИЯ

# 12 ЛЕТ В ТЮРЬМЕ. БЕЗ ВИНЫ

**Витебчанам, да и не только им, памятно "время Михасевича". На протяжении семнадцати лет маньяк с Полотчины насиловал и убивал женщин. Милиция никак не могла поймать злодея. Если бы не его наглый вызов (письмо в областную газету), а затем — записка, оставленная на месте очередного преступления, сколько еще бед мог бы натворить этот изверг! Убийцу "вычислили" и приговорили к высшей мере.**



*Валерий Ковалев с сыном Армантом.*

**Фото автора.**

Но до суда над маньяком сыщики (или в угоду начальству, или защищая честь погон) фабриковали дела на невинных людей. Суды с прокурорского "благословения" выносили скоропалительные вердикты. Зловещая тень беззакония тогда накрыла многих. Одного невинного даже расстреляли. Другой в лагерях Севера ослеп, "благодаря" чему его досрочно освободили, но вскоре он умер. У многих реабилитированных жизнь и после освобождения не сложилась, сдало здоровье, некоторых настигла преждевременная смерть.

О "витебском деле" написано немало газетных строк, издана книга, снят фильм. Мне хочется рассказать о судьбе витебчанина, который стал жертвой преднамеренных юридических интриг. Двадцатитрехлетний Валерий Ковалев после окончания витебского техникума физической культуры прибыл учительствовать в одну из школ Минской области. Но уже через месяц богатырю пришлось поменять штатский костюм на солдатскую форму. Служил в спортивном воинском подразделении Минска.

В 1973 году рядового Ковалева отправили на соревнования по боксу в Витебск. Бои на ринге принесли ему абсолютную победу в своем весе — он стал чемпионом Белорусского военного округа. В свободное время Валерий навещал родительский дом на берегу Лучесы и торопился на свидание с землячкой Галей.

Тогда же на окраине Витебска был обнаружен труп женщины с признаками насилия. Таких жертв на Витебщине уже было немало. Преступления, как ни странно, раскрывались успешно, однако жертв становилось с каждым годом все больше...

Когда турнир закончился, девушка пошла провожать жениха на вокзал. Там к ним подошли патрульные, и офицер, не объясняя причину задержания, скомандовал следовать в военную комендатуру.

С гарнизонной гауптвахты рядового Ковалева перевели в КПЗ и вскоре доставили на допрос к столичному следователю Жевнеровичу в здание Витебского УВД. Беседа длилась недолго.

— Не виновен ты в убийстве, — сказал парню пожилой прокурорский "важняк". — Я тебе верю. Возьми-ка графин, принеси свежей водички, что-то в горле першит.

Валера послушно спустился по ступенькам во двор строгого учреждения, и, давно не видевший мира людского, из любопытства приоткрыл дверь на улицу. Тут же на него навалились милиционеры. Били долго, жестоко. Потом бросили в машину и повезли к месту предварительного заключения. (КПЗ размещалась на развалинах Свято-Покровской церкви.) Сидевший рядом Жевнерович вновь проявил свой иезуитский талант:

— Видишь, Ковалев, ворота КПЗ? Шагай.

Но Валерий не вышел из "воронка". Понял коварство следователя — убийство при побеге, и дело закрыто.

И вновь были томительные дни и ночи в КПЗ и СИЗО, многочасовые допросы у разных следователей и один ответ Валерия: "Не убивал".

В областном суде процесс был вначале открытым. Пусть, дескать, посмотрят граждане, как четко сработали сыщики: есть обвиняемый, есть свидетели. Но когда один из "свидетелей" стал говорить, что показания у него "выбили", слушание дела закрыли. В зале сидели представители потерпевшей, "убийца" и группа "умелых" следователей.

Прокурор запросил для Ковалева высшую меру наказания, "свидетелю" — 3,5 года "химии" (видел, но своевременно не сообщил). Суд смягчил кару. Валерию Ковалеву предстояла пятнадцатилетняя отсидка.

1 октября 1973 года на заключительном заседании мать Ковалева попросила председательствующего разрешить ей накормить сына.

— Убийца не заслуживает такой чести, — сказал судья.

Валерий тогда дал слово, что, выйдя на свободу, будет ежегодно 1 октября приносить судье "передачу". И 12 лет спустя начал исполнять клятву. В "юбилейный" день реабилитированный доставлял деликатесы служителю Фемиды. Дрожа от страха, бывший судья брал у бывшего зека пакет с колбасой, виноградом... Через три года традицию пришлось прекратить. Экс-судья погиб под колесами грузовика.

...В минской колонии Ковалева встретили, как обычного новичка. Но в первый же день он заявил "гражданину начальнику", что преступления не совершал, виновным себя не считает, а посему работать на дядю при погонах не собирается. И за все время неволи бывший учитель физкультуры не изменил своего решения, чем обрек себя на неимоверные страдания. Непокорному зеку пришлось в общей сложности более двух лет провести в карцере. Четыре года его держали в гродненской (отправляли дважды за непослушание) крытой тюрьме камерного типа. О своей реабилитации Ковалев узнал на холодных нарах в карцере, готовясь к третьей отправке в Гродно.

...Ежедневно (!) невеста писала письма в зону своему суженому. Ни секунды не верила в его вину. Она любила Валерия. Узник часто отвечать не мог — не положено. Но несколько тысяч весточек любимой сохранил. Изредка Гале разрешалось приезжать к Валерию на кратковременные свидания. В 1979 году после официального дозволения на бракосочетание в местах лишения свободы жених и невеста стали супругами. Но "тюремный роман" превратился для молодоженов в очередное испытание. Теперь это уже была тюрьма для двоих. Администрация колонии очень хотела сломить упрямого невольника. Когда Галина приезжала к мужу на свидания, Валерия нарочно сажали в карцер "за неповиновение". Галя отправлялась обратно, так и не встретившись с мужем...

Десять лет отец Валерия стучался в разные инстанции с просьбой пересмотреть судебное дело. Добрался до Москвы. Заместитель генерального прокурора тогдашнего СССР не подвергал сомнению работу следователя-партийца с огромным стажем, к тому же и фронтовика Жевнеровича.

И все-таки процесс над настоящим убийцей-маньяком Михасевичем расставил точки над "і". Насчитали Ковалеву денежную компенсацию за причиненный материальный ущерб (о моральном вреде во времена партийно-советской системы не принято было говорить), отминусовав расходы на его содержание в колонии. Выходило чуть больше двух тысяч рублей. Срок, проведенный за колючей проволокой, приравняли к тройному — год за три. Было это шестнадцать лет назад.

Сейчас Валерию Григорьевичу Ковалеву 51 год, у него 47 лет трудового стажа. Работать тренером Ковалев, естественно, не смог. Нет сил. А до пенсии еще далеко. Единственное, что удалось бывшему узнику, — "выбить" двухкомнатную квартиру. Власти с трудом согласились на такую льготу, упрекая чету Ковалевых, что они на двоих получают лишние метры... У Валерия Григорьевича и Галины Юзефовны Ковалеых растет сын Армант. Ему уже тринадцать лет, и лишь год назад родители рассказали мальчику о тяжелой судьбе отца. Боялись травмировать психику ребенка. Правда, по словам мамы Арманта, детский ум еще не осознает того горя, которое пережил отец. Да что говорить: взрослому трудно представить муки этого человека.

Валерий Ковалев недавно обратился с просьбой к президенту А.Лукашенко, чтобы он помог решить проблему с пенсией. Дескать, есть категория граждан, которым пенсия положена раньше шестидесятилетнего возраста. Те же следователи, к примеру, которые упекли невинного солдата в тюрьму, давно уже на заслуженном отдыхе за свой "тяжелый" труд. Причем им достаточно двадцати пяти лет выслуги.

Так почему тюремный стаж Ковалева, приравненный к "военному времени", не принимается во внимание? Ведь есть же положение, что фронтовики, имеющие хоть малейшее ранение, получают инвалидность второй группы. А Валерий Ковалев разве не ранен? Да у него вся душа исковеркана за двенадцать лет тюрьмы! Она покалечена властью, и власть должна за это отвечать сполна!

Надеялся Валерий Григорьевич на "батьку", как на своего отца, хотя А.Лукашенко по возрасту ему в отцы никак не годится. Думал бывший "каторжник" и заложник партийно-советской системы, что времена поменялись к лучшему, и его поймет первое лицо государства, хоть какое-то пособие выделит для существования. Семейный бюджет Ковалевых состоит из скудной зарплаты Галины Юзефовны. Какая там зарплата, если завод "Мегом", где она трудится, больше простаивает, чем работает, а недавно вообще перешел на трехдневку. К счастью, старики — родители Валерия еще живы, выделяют последние крохи из своих пенсий, да и огородик возле дома подкармливает всех Ковалевых — и старших, и младших. За престарелыми родителями нужен уход. Этим попечительством и занимается Валерий. Конечно, президент прошение витебчанина не читал. Челобитную шаблонно переадресовали в Генеральную прокуратуру Республики Беларусь, которая вскоре прислала В.Ковалеву ответ: "Ваше обращение по вопросу возмещения ущерба в связи с незаконным осуждением, поступившее из Администрации президента Республики Беларусь, республиканской прокуратурой рассмотрено. Разъясняю, что в соответствии с законодательством, действовавшим на момент вашей реабилитации, ущерб, причиненный гражданам незаконными действиями (органов дознания, предварительного следствия, прокуратуры и суда), возмещался в порядке, установленном Положением о порядке возмещения ущерба, причиненного гражданину незаконными действиями органов дознания, предварительного следствия, прокуратуры и суда, утвержденным Указом Президиума Верховного Совета СССР от 18.05.1981 г. Других компенсаций законодательство не предусматривало. В связи с изложенным ваше обращение о предоставлении вам дополнительных льгот удовлетворено быть не может. Заместитель Генерального прокурора Республики Беларусь А.В.Ивановский".

— Неужели в Администрации президента не нашлось чиновника, который мог бы от имени президента ответить на письмо мужа? — разочарованно говорит Галина Юзефовна. — Они нам просто плюнули в душу. Обидно за такую власть. Как-нибудь переживем.

— Ничего в нашей жизни не изменилось, — поддержал разговор Валерий Григорьевич. — Моего деда Филиппа Тимофеевича в 1928 году раскулачили за одного коня и две коровы, упекли в тюрьму. В 1937 году "докулачили" и только спустя 55 (!) лет реабилитировали. Посмертно. В качестве компенсации за материальный ущерб выплатили двухнедельное пособие сыну Григорию, то есть моему отцу. За полученную сумму купили десять бутылок водки и с соседями помянули убиенного "сталинскими соколами".

**Владимир ЖИГУЛОВ.**

РЭХА

*Галоўнаму рэдактару "Народнай волі"*
*сп. І.СЯРЭДЗІЧУ*

*Шаноўны Іосіф Паўлавіч!*

*Я вельмі даўно не выступаў у Вашай паважанай газеце, але, прачытаўшы чарговае інтэрв'ю сп.Гайдукевіча, не стрымаўся, каб не адгукнуцца. Мяркую, што маю на гэта права.*

*З павагай Ваш Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

# Можа, досыць блефаваць, Сяргей Васільевіч?

## Адкрыты ліст былому кандыдату ў Прэзідэнты С.В.Гайдукевічу



Хачу да Вас звярнуцца, паважаны Сяргей Васільевіч, у сувязі з Вашым інтэрв'ю "Народнай волі" за 24 лістапада г.г. Хачу звярнуцца проста як чытач, але чытач, які Вас крыху ведае, і ведае ўжо даўно. Не ведаю, наўмысна, альбо не, але гэтае Ваша інтэрв'ю з'явілася якраз на пяціголдзе рэферэндуму пра ліквідацыю дэмакратыі ў Беларусі. Памятаю, як усе дні напярэдадні гэтага дня і ў сам дзень 24 лістапада 1996 года мы, народафронтаўцы разам з іншымі беларускімі дэмакратамі, некалькі тысячаў чалавек стаялі на плошчы Незалежнасці, каб перашкодзіць таму, што мела адбыцца. Памятаю таксама, як з другога боку плошчы з'яўлялася групка людзей (не больш за 300 асобаў), якія называлі сябе членамі Вашае партыі і *дэкларавалі сваю падтрымку сп.А.Лукашэнку і ягонаму рэферэндуму*. Пры гэтым міліцыя дбайна ахоўвала менавіта ўдзельнікаў пікета, што быў выстаўлены ад імя Вашае партыі, не даючы нікому з нас падысці бліжэй і падыскутаваць з "прадстаўнікамі Ліберальна-дэмакратычнай партыі".

Вось і ў Вашым гэтым інтэрв'ю асноўны пафас Вашай крытыкі скіраваны супраць Уладзіміра Ганчарыка і супраць тых, хто ў часе апошніх "выбараў" працаваў на адзінага кандыдата. Там фактычна *няма крытыкі* Аляксандра Лукашэнкі, ёсць толькі спачуванне прэм'еру Генадзю Навіцкаму, якога вы называеце "камікадзэ". Ваша мэта, здаецца, адна: каб сп.Лукашэнка сустрэўся асабіста з Вамі — і зрабіў Вам, хоць і сумнеўную, але ж рэкламу.

Сваё памкненне весці перамовы на найвышэйшым узроўні Вы абгрунтоўваеце тым, што ў Вас, маўляў, колькасна самая вялікая партыя. Вы называеце лічбу ажно "парадку 40 тысяч" членаў. Толькі вось нешта тут не клеіцца. Усе мы добра памятаем нядаўнюю "перадвыбарчую" кампанію. Нават сама спадарыня Лідзія Ярмошына дакарала Вас і Ваш штаб (у прыватнасці, на сваёй прэсавай канферэнцыі 7 верасня г.г.), што, маўляў, Вы ведзяце сваю кампанію вельмі неактыўна, "вяла". Уявім сабе, калі б 40 тысяч чалавек штодня наклейвалі ў розных мясцінах *хоць бы па адной* лістоўцы — ці было б гэта так непрыкметна, як яно было насамрэч? Ці не тлумачыцца наяўнасць такога вялікага "спіскавага" складу Вашай партыі тым, што Вы свайго часу працавалі кіраўніком адддзела сацыяльнай абароны былых вайскоўцаў пры ўрадзе В.Ф.Кебіча і, натуральна, мелі падрабязныя звесткі і пашпартныя даныя пра вайскоўцаў запасу і адстаўнікоў па ўсёй Беларусі? Ці ўсе члены Вашай партыі добра ведаюць сёння, у якой партыі яны знаходзяцца? Зрэшты, гэта пытанне рытарычнае, можаце абурыцца і на яго не адказваць. Вядома, што Вашай партыі ўдалося свайго часу займець пэўны стартавы капітал (адкуль — Вам вядома лепш, чым мне) і скарыстаць яго на сваё развіццё. Гэта — Ваша дасягненне, і дадаць тут няма чаго.

Я ж хачу тут паразважаць над іншым. Добра, дапусцім, што беларускі народ перад 9-м верасня Вас ужо так добра ведаў і шанаваў, што яго за Вас і не трэба было агітаваць. Вы ж сцвярджаеце ў сваім інтэрв'ю, што набралі галасоў шмат, але праверыць гэта было немагчыма, бо ўсё было, павашаму, паўсюдна сфальсіфікавана. І тут Вы памыляецеся — не ўсё і не ўсюды і, тым больш, не на сто працэнтаў! Напрыклад, чалавек найвышэйшага сумлення і гонару, былы дэпутат Вярхоўнага Савета і былы пасол Беларусі ў Германіі Пятро Садоўскі працаваў назіральнікам на адным з участкаў у Мінску, у раёне вуліцы Старавіленскай, і паведаміў адразу пасля падліку галасоў на тым участку, што за Ганчарыка там прагаласавала нешта больш за 700 выбаршчыкаў, за Лукашэнку — больш за 600, а за Вас — парадку 50-ці (дакладныя лічбы Вы можаце спраўдзіць у яго асабіста). Пра аналагічныя вынікі на іншых мінскіх (а таксама, дарэчы, і навапалацкіх) участках, дзе назіральнікам (нячасты выпадак!) усё ж давалі магчымасць рэальна глядзець за тым, што адбываецца, мне расказвалі назіральнікі ад розных грамадскіх арганізацый на тых участках — М.Шут, А.Крукоўскі і іншыя. Усюды Вашыя вынікі былі проста *вартыя жалю* — у той час, як лічба галасоў, пададзеная за Уладзіміра Ганчарыка, вагалася ў межах 42-х—46 працэнтаў. Гэта як адказ на Ваша сцвярджэнне ў інтэрв'ю Радыё "Свабода" (21 жніўня г.г.): *"За мной сотни тысяч, миллионы, которые будут за меня голосовать"*. Так што, напэўна, не трэба Вам, шаноўны Сяргей Васільевіч, спрабаваць вывудзіць для сябе рыбіну ў вадзе, якая была ўскаламучана тымі, хто афіцыйна арганізоўваў верасnёўскія "выбары".

Цяпер наконт неадольнага Вашага жадання зрабіцца Прэзідэнтам Беларусі. Зрабіць для нашай краіны можна шмат і не будучы яе Прэзідэнтам. Як робяць гэта, да прыкладу, Васіль Быкаў, Адам Мальдзіс, Барыс Кіт, Уладзімір Платонаў, Аляксей Марачкін, Павел Татарнікаў... Можна назваць тысячы прозвішчаў. Ці не здаецца Вам, што імітаванне палітычнай дзейнасці там, дзе яе напраўду няма, шкоднае менавіта для ўсёй нашай краіны. Асабіста я, будучы фактычным кіраўніком БНФ "Адраджэньне", свайго часу заўважыў, што ўзнікла рэальная пагроза перарастання маёй палітычнай дзейнасці ў яе імітаванне. І я пакінуў актыўныя заняткі палітыкай, саступіўшы дарогу тым, у каго былі новыя ідэі і прапановы. Прабачце, але новых ідэй у Вашых публікацыях я не заўважыў. Можа, Вам — тым больш як былому вайскоўцу — варта было б зрабіць тое самае, што і я? Зрэшты, калі Вам падабаецца, можаце кіраваць і марыць пра прэзідэнцтва, колькі Вам заўгодна.

**З павагай — Лявон БАРШЧЭЎСКІ, былы актыўны палітык і лідэр "непапяровай" партыі.**

**АД РЭДАКЦЫІ.**

**Адкрыты ліст Л.Баршчэўскага друкуецца з захаваннем арфаграфіі і стылістыкі аўтара.**



## Сёстры-ўкраінкі жывуць у Беларусі

Сёстры Любоў, Алена і Майя выйшлі замуж за беларускіх хлопцаў. Пераехалі з Кіева ў Рэчыцу. Дзве сястры працуюць кіраўнікамі мастацкіх калектываў, адна — бухгалтарам. Усе разам спяваюць беларускія і ўкраінскія песні.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

БОЛЬНАЯ ТЕМА

# Дым в легкие и дым в глаза

## 2—3 сигареты в день сокращают жизнь человеку на год

Меня буквально задело за живое недавнее государственное "мероприятие" с участием А.Лукашенко, а именно — **отчет правительства перед "батькой" о развитии табачного рынка в стране.** Заметьте: не о сокращении, не об ограничении, не о жестких санкциях в отношении производителей, поставщиков табачной отравы, а именно — О РАЗВИТИИ.

Президента раздосадовало то обстоятельство, что в наших магазинах и киосках можно сегодня купить сигареты, папиросы, курительный табак аж 150 наименований, однако две трети этого количества приходится на импорт. Который зачастую теневой, контрабандный. А это-де наносит сильный удар по госбюджету, "наполнение которого в этом году идет особенно непросто".

И вот на высоком совещании льются крокодиловы слезы о том, что за 10 месяцев "накапало" в бюджет от реализации отечественных табачных изделий всего лишь 2,2 миллиарда "зайцев", что составило ТОЛЬКО 70 ПРОЦЕНТОВ ГОДОВОГО ЗАДАНИЯ. В ТО ВРЕМЯ КАК ИМПОРТНЫЙ ТАБАЧОК "ВЛИЛ" В КАЗНУ ОКОЛО 11 МИЛЛИАРДОВ, что составило лишь 52,7% от прогноза. И это при том, что родимая Гродненская табачная фабрика, которая сейчас не сходит с рекламных тероликов, удосужилась выпустить лишь 8 миллиардов "изделий" при годовом плане в 12 миллиардов. А в ее складских сусеках ныне неподвижно томится двухмесячный запас родимых отечественных сигарет, называемых в народе "термоядерными".

А.Г. насупил брови: "Мы никому не позволим спекулировать и наживаться на привычках и пристрастиях людей в ущерб казне и здоровью народа!" И дал соответствующие поручения правительству представить на рассмотрение "схему", в которой будут отражены "этапы" удушения поставщиков и продавцов импортного курева. И вскользь об огромнейшем вреде этого самого табака. О том, что курение и пьянство стали чуть ли не главной нашей национальной достопримечательностью.

***

Нужна не ведомственная, не "шкурная" — со стороны государства! — протекционистская кампанейщина по "латанию дыр" в госбюджете, **а общенациональная программа конкретной, действенной борьбы по "выдавливанию" курения из нашего быта, из всего образа жизни.** Нам нужен, если хотите, государственный "антитабачный закон".

Если не ошибаюсь, такой закон в Госдуме РФ уже прошел первое чтение. Сей документ предусматривает запрет на использование положительного героя, который "дымит", в кино и на ТВ, изменение оформления сигаретных пачек, что, кстати, соответствует требованию Всемирной организации здравоохранения: надпись о вреде курения будет более жирной и крупной. Добавляется информация о содержании никотина и смол в дыме... Чтобы прочитал — и потянуло, простите, на рвоту.

Довольно экономные американцы подсчитали, что если сегодня ситуацию с потреблением табака не переломить, то к 2010 году смертность от курения достигнет 10 миллионов жителей планеты. Даже 2—3 сигареты в день сокращают жизнь человеку на целый год! Американцы подсчитали также, что в США убытки от курения превышают... **100 миллиардов долларов.** А у нас — СКОЛЬКО? Почему этой страшной цифры не знает общество?

Вот на какие вопросы надо ответить А.Лукашенко и его присным, прежде чем наотмашь "лупить" по табачному импорту и пускать нам дым в глаза. Сегодня запретим торговлю привозными сигаретами. А завтра в "черные списки" занесем американские джинсы, канадские дубленки, немецкие бюстгальтеры и автомобили, японские телевизоры и магнитофоны, французскую косметику, армянские коньяки, цейлонский чай, турецкие куртки?..

**Александр ОЛЬХОВОЙ.**

# У Мінск прыязджала былая жонка Лі Харві Освальда

**Штогод 23 лістапада ва ўсім свеце ўзгадваюць забойства прэзідэнта ЗША Джона Кенэдзі. Галоўным падазраваемым вось ужо 38 гадоў лічыцца Лі Харві Освальд. Нейкі час Освальд жыў у Мінску і пабраўся шлюбам з Марынай Прусаковай. З цёткай Марыны Прусаковай сустрэўся наш карэспандэнт Ігар Карней.**

Валянціна Прусакова жыве ў самым цэнтры Мінска, на плошчы Перамогі. Кватэру гэтую яе муж атрымаў за выдатную службу ў органах бяспекі. Але разам са з'яўленнем у сям'і амерыканца, з якім яго пляменніца пазнаёмілася на калядным танцавальным вечары, кар'ерны рост палкоўніка быў спынены.

Таму да свайго зяця (а Марыну ў сям'і лічылі дачкой) Ілля Прусакоў ставіўся надзвычай холадна. Нават пасля ад'езду маладых у Амерыку Прусакоў катэгарычна забараняў жонцы спрабаваць наладзіць кантакт з Освальдамі. Валянціна ж, наадварот, вельмі сімпатызавала Аліку (так яны дзеля зручнасці называлі Лі Харві). Упершыню цётка і пляменніца стэлефанаваліся толькі ў 1991-м — роўна праз 30 гадоў пасля развітання.

Нядаўна Валянціна Прусакова цяжка захварэла. І гаворыць, што першай адгукнулася Марына.

— Марына патэлефанавала з Амерыкі і сказала: цёця Валя, мы за сямейным сталом вырашылі, што я павінна прыехаць вам дапамагчы. Прыехала сама, па ўласнай волі, ніхто яе не прасіў. Дарэчы, былі вялікія цяжкасці, каб прыехаць. У беларускай амбасадзе згаджаліся толькі на турыстычную візу, прыйшлося даваць хабар. Тут паўтарылася аналагічная гісторыя: праз месяц трэба было прадаўжаць візу, доўга ганялі, яна абуралася, бо таксама плаціла вялікія грошы за дазвол. Даходзіла да таго, што накупіла ручак гарадскому АВІРу, бо там не было чым запоўніць дакументы.

І вось два месяцы мяне даглядала. Вазіла на таксі ў аддзяленне анкалогіі. Дарэчы, вельмі непакоілася, што застанецца без працы. Але ўжо тэлефанавала, што сустрэлі з кветкамі".

Валянціна Прусакова гаворыць, што зараз у Марыны не найлепшыя часы. Праз два гады яна збіраецца на пенсію. Муж, Кенэт Портэр, з якім Марына пабралася шлюбам у 1965-м, ужо не працуе. Нават каб прыехаць у Мінск, прыйшлося прадаць карову з уласнага статку.

Пытаюся, ці ўзгадвалася ў размовах імя Освальда наогул?

— Пра Аліка — амаль маўчанне. Наогул пра той час. 17 ліпеня ёй было 60 гадоў, і ў газеце ў Паўночнадзвінску, дзе яна нарадзілася, прысвяцілі Марыне старонку. Я чытаю — плачу, а яна нават не кранула. Ці яна стамілася ад гэтай увагі — я так і не зразумела.

Калі мы ўжо развітваліся, Валянціна Прусакова на парозе сказала: хоць усе думаюць, што забойства Кенэдзі ўчыніў Освальд, ні яна, ні Марына ў гэта не вераць. Бо для Освальда Кенэдзі быў ідэалам.

**Радыё "Свабода".**

